# Думкі ўголас

Праўда вочы коле, а хлусня можа зрабіць чалавека сляпым.

Ёсць толькі адзін спосаб падоўжыць сваё жыццё — самому не ўкарочваць яго.

Ад пустой балбатні кішэня паўнейшай не зробіцца.

Той, хто чуе толькі сябе, на глухату не пакутуе.

Жанчыну шукаць трэба там, дзе пахне любоўю.

Компас вызначае любыя шляхі, акрамя жыццёвых.

Разумная думка дурню толькі перашкаджае.

Незаслужаны камплімент — гэта таксама іншы раз хабар, але за які не судзяць.

Анёльскі характар не перашкаджае дапіцца да чорцікаў.

Вецер у галаве рэдка дзьме ў патрэбным напрамку.

Галавакружэнне ад поспехаў таксама трэба лячыць.

Чалавеку, які разбудзіў у сабе звера, варта палохацца не паляўнічага, а закона.

Даходзяць да чаго-небудзь не толькі нагамі, але і розумам.

Добрыя грошы дрэннага чалавека лепшым не робяць.

Чым мацнейшы пажар кахання, тым больш халодным павінен быць розум.

Жыццё можа быць бурным, але лепей яму не выходзіць з берагоў.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

2018 — Год Сабакі












Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ х 4.

## Цецярук-хвалько



*Байка*



Кіраўніком адной
Лясной
Птушынай установы
Прызначылі Цецерука
(Была, відаць,
Знаёмая рука,
А можа – лапа, хвост,
Бо ў гэтай справе новай
Раней ён вопыту не меў).
На куст кіруючы як сеў –
Камандны паявіўся голас.
Стаў дзюбу ён высока задзіраць:
– Спяваць
Магу не горай я
За Салаўя!
Як захачу –
Вышэй за Ястраба ўзлячу.
Я прыгажэйшы нават за Дразда
І Дзятлу ў моцы дзюбы
Дыхту дам!



Такія перлы себялюба
У лесе слухалі, маўчалі
Ды пасміхаліся ў крыло
(Не раз ужо ў бары было,
Калі так многа абяцалі).
Ды вось прыйшоў нарэшце час:
Лясны агляд-паказ
Вялікіх талентаў птушыных.
Пярнаты сход прымае пастанову:
Наш прэтэндэнт на конкурс той – адзіны,
Цецеруку даём мы слова!
...Ціхім вераснёўскім ранкам
На паляне
Замоўклі птушкі і звяры.
Ў чаканні
Вушы натапырыла журы.
Наш Цецярук
На пень адважна,
Нібы на подыум, узбіўся,
Паважна
Гледачам ён пакланіўся.
– Давай, смялей! –
Гукаюць
Падхалімы і сябры.
Артыст наш дзюбу раскрывае,
І на паляне чуецца:
– Хр-ры, хр-ры!
І больш нічога.



***

У хвалькоў і манюкоў
Кароткая дарога.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
*г. Узда.*




Алег КАРПОВІЧ.



Мікола ГІРГЕЛЬ.

**Нічыпар ШЭРАНЬКІ**

## Шафёрскія гарбацінкі

Калі тваё аўто — гніллё,
То лепш не сунься ты ў галлё:
Так хвастане падчас без меры,
Што вылецяць і шкло, і дзверы.

* * *

З пітвом даўно ён завязаў,
Быў майстар дбайны, тонкі.
Ды пад машынай праляжаў
Больш, як ля ўласнай жонкі.

* * *

Калі на трасу паглядзіш з кювета,
Памацаўшы разбіты лоб рукой,
Дык вабнай стане кожная кабета,
Дарога здасца сіняю ракой.



**Янусь МАЛЕЦ**

## Калі ты — залаты

Сяджу з самотаю ўнутры,
Слязу не-не ды й пусціць вока:
Мае цудоўныя сябры
Свінню падклалі сёння лоўка.
Сказалі мне: «Ты — залаты!»
А жонка выела вантробы.
Пытаецца да хрыпаты:
«Прызнайся ўсё ж, якой ты пробы?!»






Алег ГУЦОЛ.

# Смехапрацэдуры







Мікола ГІРГЕЛЬ.







Алег ПАПОЎ х 3.

## Хворая зіма

Штосьці зноўку зіма заблудзілася...
Ці віхурыць яна развучылася?
Ці падумала: холаду досыць!
(Беларусы ж мы, не эскімосы).
І пад покрывам з пледаў лісцёвых
Спіць, не помніць аб справах зімовых.
Можа, апанавала лянота
З году ў год нагрувашчваць сумёты,



Наваколле ахутваць снягамі
Ды пужаць добры люд маразамі?
Не, напэўна, зіма захварэла,
І гарачка пячэ яе цела.
У слаце ходзяць вірусы грыпу –
І да зімкі хвароба прыліпла.
Вось таму не мяцеліць, а капае...
У прыродзе магчыма ўсялякае!

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*




*Мікола (Мікалай Міхайлавіч) ВАДАНОСАЎ (1923–2006) – добры сябра Вожыка. У свой час актыўна супрацоўнічаў з часопісам. У «Бібліятэцы «Вожыка» выйшлі зборнікі гумарыстычных апавяданняў «Прынцыповы аратар» (1966), «Сам сябе падвёў» (1973), «Левыя ногі» (1983).*

*Праніклівы пісьменнік, са дня нараджэння якога сёлета спаўняецца 95 гадоў, у сваіх творах увасабляў усю сур'ёзнасць нашага жыцця, але, разам з тым, прыпадносіў гэта смешна, лаканічна і дасціпна.*

**Мікола ВАДАНОСАЎ**

## Допінг

*(У скарачэнні)*

«Здаецца ж, толькі прыйшоў з работы, а ўжо зноў у цэху. Вунь і станкі гудуць, што аж галава трашчыць», – падумаў Іван Іванавіч Жлукта. Потым зірнуў за скрынку для стружак і ўсміхнуўся: там, як і заўсёды, стаяла пляшка гарэлкі. Толькі ён пацягнуўся да яе рукамі, як заўважыў, што да яго накіроўваецца начальнік цэха Пятро Іванавіч Харошы. Нават не прывітаўшыся, чаго з ім ніколі не здаралася, загаварыў сваім непрыемным басам:

– Тваё прозвішча – Жлукта?

– Ага...

– Падавай заяву аб звальненні... Па ўласнай, так сказаць, ахвоце!

У Івана Іванавіча ўсярэдзіне нібы што абарвалася.

– Як гэта? – падняў ён на Пятра Іванавіча асавелыя вочы.

– А так... Усё ў пляшку зазіраеш, брак даеш. Звальняйся!

– Дык... дайце хоць вымову, – узмаліўся Іван Іванавіч.

– Было, давалі...

– З апошнім папярэджаннем...

– І гэта было!

– Тады хоць пабі мяне, таварыш начальнік, ці што? – пачухаў кудлатую галаву Жлукта.

І тут, на здзіўленне і радасць Івана Іванавіча, начальнік размахнуўся і... Дужа ён стукнуў ці не – Жлукта не паспеў разабраць, бо тут жа... прачнуўся. І ўзрадаваўся, што гэта быў толькі сон. А кухталя яму дала жонка, каб не хроп.

«Прысніцца ж рознае глупства, – падумаў сам сабе Іван Іванавіч. – Ды так, нібы ўсё на самай справе».

На гэтым, здавалася б, і канец турботам, але ж, халера на яго, гэты сон і на заўтра ўбачыўся і яшчэ праз два дні. Вось і сёння. Быццам прыходзіць у цэх Іван Іванавіч, а там ужо стаіць Пятро Іванавіч. Падыходзіць і пытае:

– Тваё прозвішча – Жлукта?

– Ага...

– Падавай заяву аб звальненні...

– Было! – крычыць Іван Іванавіч і кідаецца да свайго непасрэднага начальства з кулакамі. – Надакучыла! Знікні!

– Падавай заяву аб звальненні! – громам раскатваецца недзе пад высокай столлю голас Пятра Іванавіча.

– А вось гэта ты бачыў? – скруціў хвацкі кукіш Іван Іванавіч. Але падносіць той кукіш ужо не было каму – навокал панавала пустата і цішыня...

Раніцай зноў балела галава. «Патрэбен допінг», – падумаў Іван Іванавіч. Успомніўшы, што ў боце стаіць прыхаваная звечара пляшка «экстры», Іван Іванавіч глынуў колькі разоў з бутэлькі і адчуў, як спакваля цяплее пад грудзьмі. Потым схаваў недапітую пляшку ў кішэню паліто.

Ды вось бяда! Праз якую гадзіну зноў спала бадзёрасць, павекі ацяжэлі, у грудзях ціснула... «Допінг бы...» – падумаў Іван Іванавіч. Упэўніўшыся, што за ім ніхто не сочыць, Жлукта хуценька адкаркаваў пляшку і выпіў сваё гаючае зелле да дна.

На нейкі час зноў крыху палепшала. Заклаўшы новую нарыхтоўку, уключыў станок і пад яго манатонны гул, мабыць, заснуў, бо раптам убачыўся той пракляты сон. Толькі Пятро Іванавіч быў не адзін. Побач з ім крочыў старшыня мясцкома Сідараў.

– Тваё прозвішча – Жлукта? – пачулася пытанне.

– Ага...

– Падавай заяву аб звальненні...

– Было-о! – зарагатаў Іван Іванавіч. – Усё ўжо было! Я вас зараз як ахрышчу жалезным прутам, дык адразу знікнеце!

Іван Іванавіч схапіў жалезны прут і нават замахнуўся, але падляцелі мужчыны і закруцілі яму рукі за спіну.

– Бач ты, яшчэ хуліганіць! Колькі ж мы яшчэ з ім будзем цацкацца?

– Звольніць за п'янства бракароба! – пачуліся зусім рэальныя галасы.

«А я от вазьму зараз і прачнуся! – круціў галавою Жлукта. – Яшчэ крышачку – і прачнуся...»

Ды толькі на гэты раз ён не спаў. Ён проста быў п'яны. І, зразумеўшы гэта, здаўся.

– Напішу заяву... Сёння, – ціха сказаў ён.

*«Левыя ногі», 1983 г.*




Алег ГУЦОЛ.




Андрэй ЖАЛЯЗКА і Андрэй СІДАРЭЙКА.

SMS-ка з усмешкай...

Няхай сабе цуды даводзіць
Грамадству генетыка ўся –
Бабра вам свіння не народзіць,
Ды толькі адно – парася!

**Даслаў Сяргей Лапцёнак**
*г. Мінск.*




*Гісторыйка*

Было гэта яшчэ ў мінулым стагоддзі. У вясковую краму ўпершыню прывезлі сухое віно. Мужчыны, што працавалі ў саўгаснай сталярцы, адразу накіраваліся ў краму. Вырашылі спытаць у Васіля:

– Можа, і табе ўзяць?

– Было б цудоўна, бярыце столькі ж, як і сабе, – ківае той і дае грошы.

А пра сябе думае: «Вось і добра. Глядзіш, і пачастую чымсьці новым сясцёр з Гомеля, як прыедуць пагасцяваць. Не заўсёды ж ім самагонку піць разам з мужыкамі».

Праз некаторы час калегі прынеслі дзве бутэлькі, выставілі перад Васілём.

– Што гэта? – здзівіўся мужчына.

– Віно. Усё, як і заказваў, – не зразумелі яго калегі.

– Але ж вы казалі, што сухое.

– Так і ёсць, – разгублена адказалі сябры.

Васіль павярцеў бутэльку ў руках. Булькае, як і звычайнае!

– А яно што, ужо разведзенае?

Мужчыны зарагаталі. А пасля доўга тлумачылі Васілю, што сухое віно – гэта не парашок. Той жа моўчкі толькі і паварочваў бутэльку то адным, то другім бокам.

**Анатоль ЗЭКАЎ,**
*г. Мінск.*

## Іспанскія жарсці

Не толькі ў юнацтве могуць кіпець іспанскія жарсці. У некаторых людзей яны бушуюць і ў сорак гадоў, і ў пяцьдзясят. Здараецца і так, што мужчыны з поўнасцю сівой галавой таксама пачынаюць сварку з-за жанчыны, быццам тыя пеўні.

Нядаўна ў 82-гадовага мужчыны з Вілейскага раёна з'явілася 35-гадовая каханка. Парачка ў плане ўзросту незвычайная, але сэрцу не загадаеш. Вось толькі ў жанчыны быў да гэтага 61-гадовы кавалер, які цяжка перажываў расставанне. Мяркуем, яму хацелася выклікаць саперніка на дуэль, але ён паступіў інакш. Позна ноччу мужчына падышоў да аўтамабіля Nissan свайго канкурэнта і парэзаў шыны.

Цяпер былому кавалеру давядзецца пакрыць кошт калёсаў пацярпеламу і заплаціць штраф за наўмыснае пашкоджанне маёмасці – да 50 базавых. Можа, хоць зараз іспанскія жарсці сціхнуць, і ўсе ўдзельнікі гэтай гісторыі зажывуць мірна.



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




## Цана злачынства

Любое злачынства мае сваю цану. У лепшым выпадку нячысты на руку чалавек адкупіцца штрафам, у горшым – сядзе за краты. Гэта ісціна, і з ёй не паспрачаешся.

Напрыклад, хлопец з Гомеля зайшоў у сталічны рэстаран хуткага харчавання і купіў бургер. Толькі хацеў перакусіць, адвярнуўся на хвілінку, а ежу ў яго імгненна нехта сцягнуў. І хоць булачка каштавала ўсяго 2 рублі, малады чалавек падумаў, што зламысніка трэба знайсці і пакараць. Таму пайшоў у міліцыю і напісаў заяву аб крадзяжы. Яе прынялі, і ўжо шукаюць злодзея.

Дарэчы, зыходзячы з Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, таму, хто сцягнуў бургер, пагражае пакаранне па артыкуле «Дробны крадзеж». Па ім прадугледжаны штраф ад 230 да 690 рублёў або адміністрацыйны арышт. Пры гэтым ніжняй адзнакі сумы няма. Гэта значыць, што фармальна можна прыцягнуць чалавека нават за скрадзеную шпільку за 10 капеек. Спадзяёмся, гэты факт спыніць людзей, якія любяць прысвойваць сабе чужую маёмасць, нават дробную.

## Парада бацькам

У дзяцінстве бацькі, бабулі і дзядулі вучылі нас дзяліцца з іншымі, каб не быць скнарай. Шкада толькі, што сярод гэтых звычайных пунктаў выхавання далёка не ўсім казалі, што красці нельга.

Так, два хлопцы з Мінска ноччу праніклі на тэрыторыю транспартнай кампаніі, дзе стаялі грузавікі з півам. Маладыя людзі залезлі ў адзін з іх і скралі каля 250 бутэлек напою агульным коштам больш за 300 рублёў. Прысвоеную маёмасць мінчане перанеслі ў кватэру аднаго з маладых людзей і арганізавалі гулянку: пілі піва самі, дзяліліся і прадавалі знаёмым. Вось толькі ў хуткім часе іх знайшлі і затрымалі міліцыянеры.

Хлопцы могуць апынуцца за кратамі на тэрмін да чатырох гадоў. Мы ж дадзім параду ўсім бацькам: абавязкова некалькі разоў паўтарыце дзецям, што красці нельга. Каб гэтая ісціна трывала засела ў іх маленькіх галоўках ажно да самай старасці.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




## Наваражыла

– Ну, што табе цыганка наваражыла?
– Што хутка буду мець непрыемнасць.
– Не вер гэтаму.
– Дзіва, – не вер! Як толькі яна выйшла, я адразу ж спахапілася, што няма гадзінніка.

## Награшыла

Аднойчы ў пост набожнай бабульцы захацелася каўбасы. «З'ем крышачку, каб ніхто не бачыў», – падумала яна. Свежая свіная каўбаса такая смачная, што бабулька нават пальцы аблізвае. І раптам пачалася навальніца. Заблiскала маланка, загрымеў гром. Бабулька паклала на стол каўбасу і зашаптала:

– О, Божа, навошта з-за такога маленькага кавалачка каўбасы столькі шуму нарабіў?

## Зручна

Аднойчы спыталі ў лайдака:
– Што лепей: есці або ляжаць?
– Цудоўней за ўсё есці лежачы, – адказаў той.

## Услужыў

ПЕРШЫ. Пабудзі мяне, калі ласка, у шэсць гадзін раніцы.

ДРУГІ. Добра, толькі напомні мне аб гэтым яшчэ раз без пятнаццаці шэсць.

## Чаму халодная?

– Ты, Мар'я, у печы паліла?
– Канешне!
– Чаму ж яна халодная?
– Астыла за тры дні.

## Пасля даклада

– Ну, як мой даклад? Верыш, пакуль чытаў, аж у горле перасохла.

– Перасохла? Дзіўна. А мне здалося, што ў дакладзе было шмат вады.

## Кадушка пад агуркі

Стары Пятрок быў вядомы ў вёсцы як славуты майстар рабіць розныя кадушкі, дзежкі, бочкі і іншае драўлянае начынне.

Зрабіў неяк Пятрок кадушку пад агуркі гарластай удаве Язэпісе.

І вось праз некалькі дзён яна прыбягае ў хату да бондара раз'юшаная, як вяпрук, і давай лямантаваць:

– Ты што ж гэта здзекуешся з беднай удавы! Засаліла агуркі на зіму, а з іх расол праз два дні выцек!

Пятрок, спакойна пыхкаючы люлькай, запытаў у разгарачанай жанчыны:

– Ты мяне прасіла зрабіць пасудзіну пад агуркі?

– Пад іх, а то як жа, не помніш хіба? – крыху спакайней адказала ўдава.

– Ну, дык я і зрабіў пад агуркі, – яны ж, бач, не высыпаліся.

## Прынцыповая



У жанчыны пытаюцца:
– Колькі вам год?
– Трыццаць.
– Але ж вы і год таму тое ж казалі.
– Я ад сваіх слоў не адмаўляюся.

## На экзамене

Прафесар – спалоханаму студэнту:

– Не хвалюйцеся, экзамен – гэта тэатр: вы акцёр, а я глядач.

– Выдатна! Тады я зараз паклічу сябра Генку, і ён пабудзе суфлёрам.

## Чулае сэрца

– І ў вас хапіла сумлення пакінуць жонку зусім адзінокай.

– Ды што вы! У яе ж засталося наша трохгадовае дзіця.

## У гасцях

– Трахім, скажы, чаго твая жонка ўсё кашляе ды кашляе?

– Ат, не кажы! Апранула новую сукенку, дык хоча, каб на яе ўсе глядзелі.

*«Смейцеся на здароўе!», 1987 г.*








Алег ГУЦОЛ х 3.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

## «Катастрофа»

Ля крамы, затуліўшыся ад ветру,
Кузьма пакашляў і пачаў здаля:
– Ад Сонца на пятнаццаць сантыметраў,
Сказалі, аддалілася Зямля.

Калі працэс не спыніцца ў Сусвеце,
Зямля загіне праз мільён гадоў...
Да катастрофы гэтай на планеце
Зямлянін кожны мусіць быць гатоў.

Бяда чакае нас усіх, Мікола,
Кажу табе сур'ёзна, без маны!
Сябрук са скрухай паглядзеў наўкола
І выдаў свой аналіз навіны:

– Лягчэй, вядома, тым, хто не працуе:
Не шкода ні маёмасці, ні сіл...
Як перажыць мне навіну такую?
Учора толькі бульбу пасадзіў!

**Зміцер ВОЛЬСКІ,**
*Валожынскі раён,*
*г.п. Івянец.*




# З 75-годдзем майстра вясёлага вершаванага слова!

*Сардэчна віншуем ЧАРНЯЎСКАГА Мікалая Мікалаевіча, беларускага пісьменніка, чыё імя стала знакавым перш за ўсё ў дзіцячай літаратуры. Многім Мікалай Мікалаевіч вядомы як супрацоўнік часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка», але і для нас, вожыкаўцаў, ён таксама «свой». А як жа інакш: ужо ў школьныя гады будучы паэт спрабаваў сябе на сатырычнай ніве. Пасля трывала зачапіўся за вожыкаўскія калючкі, калі ў часы студэнцтва надрукаваў верш «І не косяць, і не жнуць». Потым былі кнігі сатыры і гумару «Казёл-моднік» (1978), «Нашто бабе агарод?» (1989), што выйшлі ў Бібліятэцы «Вожыка». А таксама кнігі гумару «І не косяць, і не жнуць...» (1982), «Камар на матацыкле» (1985), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996).*

*Мікалай Мікалаевіч – не толькі выдатны творца з адметным пачуццём гумару, але і сапраўдны педагог для некалькіх пакаленняў паэтаў, празаікаў, журналістаў. Вясёлае мастацкае слова пісьменніка перыядычна радуе нашых чытачоў, а значыць, з гумарыстычным цэхам Мікола Чарняўскі парываць не збіраецца – і гэта цудоўна! Зычым юбіляру моцнага здароўя, творчага плёну і новых дасціпных вершаў.*



Сяброўскі шарж
Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## КАРАЦЕЛЬКІ З «ПАРНАСКАЙ АРЦЕЛЬКІ»

* * *

Курыць і ціць
З гадамі кінуў.
Аднак уелася,
Адно:
Узяў на подпіс
Дзённік сынаў
І па прывычцы –
Пад сукно!



* * *

Не рэдка,
Не часта –
Хваліла начальства.
Цяпер жа, бывае, –
Мне пальцам
Ківае.
У чым тут прычына?
Ды ў гэтым, магчыма:
Хаджу
Ля начальства –
Ківаюся часта.



* * *

Ён падкі быў
На хабар, славу.
Праславіўся –
Падсудным
Сеў на лаву.



* * *

На загартоўку
Тэст здаю.
Куды прапала тая стома?
У будзень –
Ля станка стаю.
У выхадны ж –
Ля гастранома.
Сяброў –
Увесь мікрараён.
Чаму ж завуць
Пах-ме-лі-ён?



* * *

Ён грошы скупа
Не замоўчваў:
Сусед купляў,
А ён – замочваў.




* * *

У вярблюда
Дзень народзін.
Не прыйшоў з гасцей
Ніводзін.
Добра знаюць:
Як нап'ецца,
Ён тады на ўсіх –
Плюецца!



* * *

На Трызоравым вяселлі
Госці пікнуць не пасмелі,
Бо на гэта свята
Воўк прыйшоў за свата.
А ваўчыха – свацця...
Дзе гасцям схавацца?..



* * *

Хадзіў Гром да Маланкі –
Такі нябесны лёс.
Спярша –
Хаўрус, гулянкі,
А потым –
Рэкі слёз...













Алег ПАПОЎ. х 4.




Твар — перакладчык нашых думак.

Розум ёсць, а астатняе знойдзецца.

У каго добры зрок, таму лягчэй капейкі збіраць.

Маці не мае выхадных да глыбокай старасці.

Калі ўжо не хапае сіл працаваць, адразу тысяча прац знаходзіцца.

Цудоўна, калі набліжаецца дзень палучкі, а ў цябе яшчэ грошы з мінулай засталіся.

Жыццё не машына — задняй перадачы не мае.

Адзін з гонарам пражывае адпушчаны яму тэрмін, другі цягне яго.

Каханне — шчаслівы выпадак, які залежыць не ад нас.

Часцей за ўсё на думку натыкаешся ў поцемках.

Для шчасця дастаткова, каб цябе разумелі правільна.

Лепшая кніга – чалавек, асабліва, калі чуеш яго па радыё.

Кожны з нас мае асабістыя раманы: тоўстую медкарту і працоўную кніжку.

Хочацца пажыць аднаму, без памочнікаў.

Разбагацець, лежачы на адным баку, немагчыма.

Натхненне можа прыйсці ў любы дзень, але далёка не да кожнага.

Глупства заўсёды знойдзе сабе прымяненне.

Расказчыку сорамна пытацца ў прысутных у зале, куды прапала яго думка.

Лёгка пішацца тады, калі думка лягчэйшая за руку.

Няма нічога пастаяннага ў жыцці, нават почырк і той заўсёды розны.

**Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі р-н,*
*в. Звяняцічы.*

**2018**

# Вожык

## Часопіс сатыры і гумару Рэспублікі Беларусь

**СТУДЗЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**ЛЮТЫ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**САКАВІК**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**КРАСАВІК**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**МАЙ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

**ЧЭРВЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

**ЛІПЕНЬ**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**ЖНІВЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

**ВЕРАСЕНЬ**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

**КАСТРЫЧНІК**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

**ЛІСТАПАД**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

**СНЕЖАНЬ**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |




Аляксандр ПЯТРОЎ.



Юрый МІХАЙЛАЎ.

# Як знікае вера ў цуды?



*Фельетон*

Адам Міхайлавіч Летуценнік поўнасцю адпавядаў свайму прозвішчу: у дзяцінстве не выпускаў з рук кніг пра чараўнікоў і неверагодныя вандроўкі, а калі стаў падлеткам, то мог гадзінамі марыць, быццам жыве ў шыкоўным палацы. Ужо ў юнацтве Адам зразумеў, што грошы проста так з неба не сыплюцца, а раптоўна разбагацець можна толькі калі выйграць у латарэю ці атрымаць спадчыну ад далёкіх сваякоў.

У сталым узросце Летуценнік не страчваў надзею, што вось-вось здарыцца нейкі цуд. Раз на месяц абавязкова купляў запаветны білет. Потым з азартам сачыў, якія бочачкі выцягваюць прыгожыя дзяўчаты ў тэлевізары. Часам нешта выйграваў, але грошай хапала хіба што на марожанае сабе, жонцы ды дзецям. Дачушка і сын радаваліся такім падарункам, а вось жонка Ліза дапякала:

– Ты больш марнуеш на свае латарэі, чым атрымоўваеш!

Але Адам Міхайлавіч нават і не думаў спыняцца верыць у цуды. Але, каб жонка не лаялася, пачаў набываць латарэйныя білеты ўпотай ад сваёй другой палавіны.

І вось напярэдадні пяцідзесяцігоддзя мужчына, калі ішоў з працы, зазірнуў у паштовую скрыню. Сярод рэкламных паштовак і газет ён заўважыў паведамленне, што на яго імя прыйшла бандэроль. Дрыготкімі рукамі ён трымаў паперку і перачытваў раз за разам, правяраў, ці сапраўды яго прозвішча там напісана, ці дакладны адрас. Адам Міхайлавіч нават не заўважыў, як даклыпаў да сваіх дзвярэй, распрануўся, зняў абутак і сеў у крэсла. З паведамленнем у руках і ў задуменнасці яго знайшла жонка.

– Што гэта ты трымаеш? – з цікаўнасцю глядзела на мужа Ліза.

– Здаецца, мне нарэшце пашанцавала... – ціха прамовіў Летуценнік, працягваючы паперку. – Не ведаю, ад каго, але прыйшла мне пасылка.

– Можа, брат твой з Масквы падарунак прыслаў ці цётка з Віцебска? – выказала здагадку жанчына.

– Не, яны не маглі. Брат абяцаў прыехаць праз месяц і прагаварыўся, што новую вуду мне купіў. А цётка да сябе запрашала, маўляў, мяне прэзент на месцы чакае, – задуменна адказаў Адам.

– Тады гэта твая таямнічая прыхільніца. А ну, прызнавайся, хто перад табой хвастом круціць? – хітра прыжмурыўшы вочы, запытала Ліза.

– У мяне радыкуліт і лысіна, каму я патрэбен! – заўсміхаўся Адам Міхайлавіч. – Лепш парай нешта, бо неяк мне боязна. Невядома ад каго пасылка. Ды яшчэ тут напісана, што яна адпраўлена накладным плацяжом. А гэта значыць, каб забраць бандэроль, давядзецца заплаціць сорак рублёў. Але ж цікава, што там. Аж ногі дрыжаць, так хочацца бегчы на пошту!

– Неяк гэта ўсё дзіўна, я б не давярала такім раптоўным падарункам, – крыху падумаўшы, сказала жонка, – але ж бачу, як табе карціць даведацца, што гэта за пасылка. Таму прапаноўваю наступнае: я зраблю табе падарунак на юбілей і дам неабходную суму. Толькі пасылку адкрываць разам будзем!

– Дзякуй, любая, – Адам падхапіўся з крэсла і пачаў абдымаць Лізу. – Я нават адчуваю, што ў бандэролі нешта вельмі каштоўнае і патрэбнае.

Адам Міхайлавіч амаль не спаў ноччу, уяўляў, што за падарунак чакае яго. У марах гэта быў і новы тэлефон, і фотаапарат, і набор фірмовых блёснаў, і нават

ключы ад аўтамабіля. А раніцай, яшчэ за паўгадзіны да адкрыцця пошты, мужчына ўжо стаяў каля дзвярэй. Калі яны адчыніліся, Летуценнік амаль пабег да акенца выдачы і працягнуў паведамленне:

– Мне тут бандэроль прыйшла, хачу забраць. Вось, трымайце грошы.

Паштарка знікла на хвілінку і прынесла раптоўны падарунак Адама Міхайлавіча. Той схапіў скрыначку і кінуўся дадому, дзе яго чакала жонка.

– Забраў! – закрычаў Летуценнік, адчыніўшы дзверы кватэры. – Там нешта грыміць, быццам ключы!

– Адкрывай хутчэй, мне самой ужо цікава, што там! – выпаліла Ліза.

Адам Міхайлавіч асцярожна разгарнуў паперу, у якую была загорнута невялікая кардонная скрыначка, і павольна адкрыў.

Хвілін пяць муж з жонкай сядзелі моўчкі і разглядалі змесціва пасылкі. Там не было ні тэлефона, ні фотаапарата, ні нават набору фірмовых блёснаў. У каробцы ляжала звычайная пластыкавая бірулька. Першай зарагатала Ліза:

– Вось дык падарунак! Сюрпрыз! Дарагія ж сталі бірулькі.

– Эх, стары я дурань! Усё, больш ніколі не буду верыць у цуды, няма іх, – ледзьве не плакаў Летуценнік.

Пасля гэтага здарэння ён тыдзень амаль не размаўляў з жонкай, хадзіў маўклівы і ні разу не ўсміхнуўся. У рэшце рэшт жонка не вытрымала:

– Хопіць перажываць. Ну, паверыў нейкаму махляру, ды ліха на іх, гэтыя грошы. Учора сышлі, сёння прыйдуць. Вось глядзі, што я табе купіла, – Ліза працягнула Адаму латарэйны білет. – Гульня праз паўгадзіны. Жадаю поспехаў.

Якім было яе здзіўленне, калі праз некаторы час з пакоя пачуўся крык: «Ура! Адыграўся!»

На кухню амаль заляцеў Летуценнік і пачаў трэсці білетам:

– Крыху больш за сто рублёў! І ўсё ж я такі шчаслівчык, бо жоначка ў мяне даражэйшая за золата!

Канешне, Адаму Міхайлавічу Летуценніку пашанцавала адыграцца. Але так бывае далёка не заўсёды. Падобныя пасылкі-падарункі ўжо атрымаў жыхар Жодзіна і жанчына з Барысава. Першы заплаціў 65 рублёў, а другая – 70. У іх бандэролях, як і ў героя нашага фельетона, была нейкая дробязь, якая амаль нічога не каштуе. Вера ў цуды і падарункі з нябёсаў – гэта добра і нават карысна, але іншы раз лепей падумаць перад тым, як іх прымаць.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Пётр КОЗІЧ.




## Гісторыя з гумарам

*Калі ў рэдакцыі заходзіць гаворка пра Уладзіміра Фаміча ЕРМАЛАЕВА (1933–2014), на нашых тварах абавязкова з'яўляецца ўсмешка. Без яе ўспамін пра ветлага і светлага чалавека, таленавітага гумарыста і шчырага сябра часопіса проста немагчымы! Як немагчыма не смяяцца з яго трапных, колкіх і сапраўды вясёлых пародый ды вершаў. Уладзімір Фаміч цудоўна спалучаў у сваім жыцці два любімыя заняткі: педагагічную працу (кандыдат гістарычных навук, дацэнт, ён выкладаў у сталічных ВНУ) і літаратурную дзейнасць. Вершы, мініяцюры, пародыі аўтара з зайздроснай перыядычнасцю друкаваліся ў «Вожыку», а затым часопіс выдаў у сваёй Бібліятэцы і кнігі гумару «Хто не смяецца, той не есць!» (1994), «Пераход колькасці ў колкасці» (1997). Выйшлі таксама кнігі гумару і сатыры «Радком па кумпалу» (1998), «Дулі будуць апасля» (2004), «Смехам закаханыя» (2008).*

*Уладзімір Ермалаеў пакінуў нам багатую гумарыстычную спадчыну, яго творы хочацца чытаць і перачытваць. Што мы з задавальненнем і зрабілі, знайшоўшы ў запасе падрыхтаваныя ў свой час да друку, але так і не выдадзеныя вершы. Сёння, калі Уладзімір Фаміч мог бы святкаваць сваё 85-годдзе, відаць, і прыйшоў іх час.*

**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

### Пра жаночы папрок і забыты замок

*Распрану свой гонар дагала,*
*Хай ад сораму пачырванее...*

* * *

*Моцным словам зверху пачастую –*
*І была, як кажуць, ні была!*



* * *

*Калі мне прызнаваліся ў каханні,*
*Я сэрца замыкала на замок...*

**Тамара ТАЛКАЧОВА**

Распрануся ў думках дагала,
Уяўлю, як ты пачырванееш.
І нашто цябе дамоў вяла,
Калі ўсё ніяк не пасмялееш?

Чула, што паэткі – нарасхват,
А ў мяне зноў вечар упустую.
Я цябе (не расшпіліў халат!)
Моцным словам зверху пачастую.

Кіну недапісаны радок,
Злая, як галодная ваўчыца...
Раптам сэрца – тоўх! – у левы бок:
– Ты ж забыла зняць з мяне замок!
– Праўда? Не зняла? Ну і дурніца!



### Дакуль?.. або Маналог незадаволенай Музы

*Пакуль агонь зары маёй не згас,*
*Мы будзем разам – грэшнік і святая...*

**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

Была надзея на цябе не раз,
Ды зараз разумею, што пустая.
Хвалёны грэшнік, хоць бы даў адказ:
Ці доўга буду я яшчэ святая?

Мяне сустрэнеш – нізка б'еш паклоны
Ды пад гітару песняй весяліш.
Глядзіш ты на мяне, як на Мадонну.
Калі ж, як на жанчыну, паглядзіш?



### Пра плячо і чарнявае дзяўчо

*Пакладзі руку мне на плячо,*
*О маё чарнявае дзяўчо.*

***

*...ў смузе начэй*
*Плячам самотна без плячэй.*

***

*Заснуць на плячы да раніцы,*
*Да самага давідна.*

***

*Да шчакі шчака,*
*Да пляча плячо –*
*Спі, маё дзяўчо...*

**Мікола ШАБОВІЧ**

Як бярозка ў золкім верасні,
Страпянулася дзяўчо.
І паэту захацелася
Паляжаць – плячо ў плячо.

А дзяўчо такое смелае,
Не адмовілася – не!
Сарамліва ружы белыя
Чырванелі на акне.

Падстаўляў плячо ёй правае
(Можа, левае мякчэй?),
Ды яна, яго чарнявая,
Ноч не сплюшчыла вачэй.

Задрамаць бы хоць пад раніцу...
– Што не спіш, маё дзяўчо?
Адазвалася абранніца:
– Мулка мне! Адсунь плячо!



## Пра варон

*(Не балада)*

*...каля майго акна цэлы дзень на дрэве сядзелі вароны, нібы чакалі,*
*калі я засну...*
***
*Другі дзень дзве вароны сядзяць на дрэве, што каля майго акна...*
***
*На дрэве пад маім акном мокне варона, як чорнаяануча...*

**Віктар ШНІП**

Раней ім не хапала сучча,
Цяпер адна там-сям мільгне.
Ці то крылом, ці то анучай
Махне, убачыўшы мяне.

Без іхніх «кар-р-р» сумую ранкам,
Не сплю з паўночы давідна.
Куды зляцелі гарлапанкі?
Чаму на цэлы двор – адна?



Мне хоць бы дзве для суцяшэння,
А лепей – тры ці нават пяць...
Любое боскае стварэнне
Свой род павінна памнажаць.

Цаню птушынае суседства
За гаману ў лістоце крон...
Прыйду пад вечар з выдавецтва
І – на балкон, лічыць варон.





## Ці ўсё было?

*Жарт*

Дзядок, хоць не мацак, але бадзёры
(Нашто лічыць пражытыя гады?)
Набыў сабе пуцёўку ў санаторый
І бегаў там, як певень малады.

Аздараўляў душу сваю і цела,
Тады-сяды на грудзі браў сто грам.
– Было ўсяго, чаго душа хацела, –
Казаў пасля знаёмым і сябрам. –

Быў душ Шарко (яго адклаў на потым),
Душ цыркулярны (ім лячыў мігрэнь).
Былі там і «азонавыя боты»,
І лазер, п'яўкі, інгаляцыі штодзень.

Масаж, басейн... Падводныя струмені
Сцябалі добра ўпоперак і ўздоўж.
– А да жанчын былі «папаўзнавенні»? –
Спытаў сусед як быццам усур'ёз.
– Былі.
– І што?
– Ні разу не дапоўз.



# Зачыняйце дзверы... злодзей можа быць побач!



*Міні-фельетон*

На пачатку нулявых па тэлевізары часта паказвалі сацыяльную рэкламу, якая падымала розныя тэмы. Напрыклад, як уратаваць сваё жыллё ад пажараў, зберагчы лес ці быць асцярожнымі з незнаёмымі людзьмі. Сярод іх быў ролік, які не пашкодзіла б паказаць і зараз. У ім агучвалася простая думка: «Зачыняйце дзверы... злодзей можа быць побач!»

Тэма кватэрных крадзяжоў каторы год застаецца актуальнай для нашай краіны. Напрыклад, за 2017 год толькі ў Мінску было зафіксавана больш за 850 кватэрных крадзяжоў, прычым у 758 выпадках злодзеям нават не давялося ўскрываць замкі.

Нямала людзей сутыкаліся з сітуацыяй, калі хтосьці тузае за ручку дзвярэй, а потым кажа, што памыліўся паверхам. Дык вось, у 45 падобных выпадках злодзеі выявілі незачыненыя кватэры і дамы, без перашкод увайшлі ў жыллё і вынеслі ўсе каштоўнасці.

Але часцей гаспадары страчвалі свае грошы і маёмасць з-за даверлівасці. Так, у 713 выпадках былі зафіксаваны гасцявыя крадзяжы. То бок уладальнікі кватэры запрашалі да сябе малазнаёмага чалавека ці кампанію, а потым гаспадар ці хтосьці з гасцей аказваўся без мабільнага тэлефона, грошай ці якіх-небудзь рэчаў.

Дарэчы, ахвярамі злодзеяў далёка не заўсёды становяцца аматары гарачыльных напояў. У апошні час павялічалася колькасць выпадкаў, калі людзі знаёмяцца праз сацыяльныя сеткі, запрашаюць у госці новых сяброў, а тыя, скарыстаўшыся зручным выпадкам, што-небудзь выносяць з хаты.

Таксама праваахоўныя органы засяроджваюць увагу на крадзяжах у найбольш неабароненай часткі насельніцтва — пажылых людзей і адзінокіх пенсіянераў. Да іх махляры траплялі ў кватэры, прадстаўляючыся сацыяльнымі работнікамі, супрацоўнікамі ЖКГ, валанцёрамі Чырвонага Крыжа. А потым падманам вымагалі грошы.

Вывад з усяго гэтага просты: будзьце ўважлівымі, менш давярайце незнаёмцам, тым больш, з асцярогай пускайце іх у сваё жыллё, і тузайце дзверы пасля закрыцця, каб упэўніцца, што яна сапраўды зачынены.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




## Розум і прыгажосць

Размаўляюць два начальнікі.

— У маім канструктарскім аддзеле, — хваліцца адзін, — усе жанчыны — прыгажуні.

— А ў маім калектыве, — з гонарам перабівае другі, — не толькі прыгожыя, але і разумныя!

## «Працаўнік»

— Дзе гэта наш інжынер Іваноў? Ён хоць ходзіць на працу?

— Канешне, вунь на стуле вісіць яго пінжак! Толькі сам ён кудысьці выйшаў.

...Праз некалькі месяцаў:

— А куды знік Іваноў?

— А яго павысілі на пасадзе. Бачыце, пінжак вісіць ужо на другім крэсле.

## Свая праблема

— Слухай, сусед, мне зусім не падабаецца твая агароджа!

— Гэта чаму?

— Такая шчыльная ды высокая, што я не магу ўбачыць, што робіцца ў цябе на агародзе.

## Гонар

Малады паэт, прозвішча якога пачынаецца з літары «п», хваліцца сябрам:

— Мая кніга стаіць на паліцы ў бібліятэцы побач з творамі Пушкіна!

## Падрыхтаваўся

— Ты падрыхтаваўся да заўтрашняй нарады па пытаннях павышэння прадуктыўнасці працы?

— Так, зарадзіў свой смартфон, планшэт і на ўсялякі выпадак узяў часопіс з крыжаванкамі!

**Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

### Горкая праўда

Днём і ноччу шклянак звон –
Хата ў бабы цесная.
Шмат хто піў тут самагон,
Царства ім нябеснае!




Пётр КОЗІЧ.




Юрый МІХАЙЛАЎ.

## Янусь МАЛЕЦ

### «Лячэбны» эфект

– Жонка, лаешся за што ты,
Як прыйду «ніякі»?
Я ж гарэлку п'ю, каб з потам
Разам выйшлі шлакі.
І не зіркай зранку воўкам,
Калі пахмялюся.
П'ю не проста так, без толку:
Дрэнна мне – лячуся!

### Паратунак

Да Пятра прыйшоў зямляк
Нечакана ў госці.
На прыступках падаў так,
Што трашчалі косці.

На паверх чацвёрты поўз
Ён з апошняй сілы.
Гуз пад вокам, сіні нос,
Белы свет нямілы.

На канапе госць ляжыць,
Паратунку просіць.
Гаспадар над ім дрыжыць,
Лекі-зёлкі носіць.

«Вой, памрэ, а што ж рабіць?» –
Пётра ўсхваляваўся.
Бедака ён пахмяліць
Раптам здагадаўся.

Той гарэлку прагна п'е,
Выжлукціў да донца
І заснуў. Відаць, яе
Любіць ён бясконца.

Ад бяды не ўратаваць
Земляка пахмеллем.
Час яму стасункі рваць
Са змяіным зеллем!

**Галіна НУПРЭЙЧЫК,**
*г. Клецк.*




Пётр КОЗІЧ.

**Андрэй СІДАРЭЙКА**

# ГАСПАДЫНЯ ФРОСЯ



*Гумарэска*

Саракагадовы закаранелы халасцяк Адась выпадкова ўбачыў па тэлевізары рэкламу: нейкая інтэрнэт-крама прапаноўвала набыць робата «Хатнюю памочніцу Фросю». Голас за кадрам вяшчаў: «Навука не стаіць на месцы. Робат Фрося таму яскравы доказ. За кароткі тэрмін яна прыводзіць у парадак кватэру, раскладае па месцах рэчы, пыласосіць, выцірае пыл. Ідэальнае набыццё для тых, у каго не хапае часу на хатнія справы».

– Мне патрэбна такая гаспадыня! – усклікнуў Адась і, схапіўшы ручку, стаў запісваць патрэбную інфармацыю.

Пасля падышоў да тэлефона, набраў неабходную камбінацыю лічбаў і зрабіў заказ. У прызначаны дзень мужчыну даставілі электронную памочніцу, якую той адразу ж уключыў.

– Як вас завуць? – запыталася Фрося.

– Адась.

– У кватэры трэба зрабіць вільготную ўборку. Дайце мне вядро і анучу, Адась!

– Хвіліну, – узрадаваўся гаспадар і пабег выконваць загад.

Калі ўсё было гатова, Фрося адзначыла:

– Каб не замінаць, пакіньце памяшканне.

– Яшчэ чаго, – абурыўся мужчына. – Я тут гаспадар!

– Пакіньце памяшканне, пакіньце памяшканне, – паўтарала жанчына-робат.

Адасю было вельмі непрыемна, але ён усё ж выйшаў з кватэры. Вярнуўшыся праз пятнаццаць хвілін назад, мужчына быў задаволены ідэальным парадкам.

– Ого! Цяпер мне ўсе жанатыя сябры зайздросціць будуць, – сказаў ён уголас.

Адась падышоў да форткі і хацеў закурыць, але тут жа за спінай пачуў:

– У пакоі не смаляць цыгарэты. Для гэтага ёсць спецыяльныя месцы на вуліцы.

– Дваццаць гадоў паліў тут і буду працягваць, – абурыўся мужчына.

– Гэта парушае інструкцыю. Я буду вымушана выклікаць МНС, – выдала Фрося.

Адась зноў пайшоў з кватэры. Калі вярнуўся, то не знайшоў на звычайным месцы шкарпэткі. Спытаў, дзе яны, у Фросі.



Аляксандр ШМІДТ.

– Брудныя мыюцца, чыстыя ляжаць у шафе, – пачуў у адказ.

Вечарам жанчына-робат папрасіла Адася зноў пакінуць памяшканне, бо трэба было зрабіць чарговую вільготную ўборку. Пасля, калі мужчына збіраўся класціся спаць, Фрося прымусіла Адася пачысціць зубы. А раніцай пачала будзіць гаспадара.

– Яшчэ рана, – адмахнуўся ён. – Я ў такі час звычайна сплю.

– Трэба рабіць зарадку, – не адставала тая.

– Твой гаспадар абібок, – прамовіў Адась і хацеў даць ужо храпака, але Фрося абліла яго халоднай вадой.

– Я створана для таго, каб зрабіць тваё жыццё лепшым, – патлумачыла робат Фрося.

Ад нечаканасці Адась, здаецца, падскочыў аж да столі. Але вырашыў паслухацца і зрабіць комплекс практыкаванняў. А потым зноў была вільготная ўборка, падчас якой гаспадар прагульваўся каля дома. Пасля сняданку Адась хацеў адпачнуць, але Фрося нагадала пра непамыты посуд:

– Талеркі мыюць пасля прыёму ежы. У адваротным выпадку, гэта парушае інструкцыю.

– Раскамандавалася тут, – незадаволена прамармытаў Адась і пачаў мыць посуд.

У гэты момант у кватэру пазванілі. На парозе стаяў даўні сябар Мікола, таксама халасцяк.

– Нічога сабе, які ў цябе парадак! Няўжо ажаніўся? – выказаў той здагадку.

– Не. Гэта ўсё мая памочніца Фрося. Яна ў мяне малайчына. Усё ўмее, – адказаў з усмешкаю Адась.

– Нічога сабе! Я таксама хачу сабе такую, – сказаў госць.

– Ты ведаеш, у чэркесаў ёсць даўні звычай: дарыць госцю ўсё, што ён пахваліць. І хоць я і звычайны беларус, але таксама з вялікай пашанай адношуся да сваіх сяброў. Таму прымі ў дар Фросю. Няхай яна служыць табе так, як увесь гэты час мне.

– Вой, вельмі шчодры падарунак, – здзівіўся Мікола. – Грошай, пэўна, шмат каштуе. Ды і як ты будзеш без яе спраўляцца?

– Не прападу. Халасцякі ж павінны ва ўсім дапамагаць адзін аднаму!

Развітваючыся з Адасем, Мікола ў чарговы раз шчыра дзякаваў сябру за хатнюю памочніцу. Як толькі за госцем зачыніліся дзверы, Адась адчуў, што з яго нібы зваліўся нейкі неймаверны цяжар.

– Пажыві цяпер і ты, браток, з гаспадыняй Фросяй. А я сваё адгараваў, – прагаварыў ціха мужчына.

На кухні каля акна Адась запаліў. Цяпер яму ніхто не дапякаў інструкцыямі. І на душы стала па-звыкламу спакойна.

*Рэчыцкі раён,*
*агр. Караваціччы.*




## Замалёўка пра трэніроўку

Ў панядзелак закончыў работу –
Нават з крэсла ўставаць неахвота.
Ды чакае спартыўная зала,
Дзе праліў свайго поту нямала.
А навошта мне гэта патрэбна?
Каб фігура была не ганебнай,
Каб улетку на пляжы пясчаным
Мне дзівіліся мілыя дамы.



Так што трэба яшчэ падкачаць
Прэс і ногі – разоў дваццаць пяць.
Трэніроўку пачаў я з запалам,
Толькі штосьці лянота напала.
Ды й жывот быццам так не тырчыць...
Ай, паеду дамоў, піва піць!
Па дарозе куплю бульбу-фры
І сухарыкаў – пачкі са тры.
У чацвер прыгатую свініну,
А назаўтра – пячонкі курынай.
Рэстаран нас чакае ў суботу:
Туды пойдзем з сябрамі з работы...
Не магу штосьці я зразумець,
Чаму стала фігура паўнець
І, нягледзячы на трэніроўкі,
У штаны не улажу я зноўку.
Трэба штосьці, відаць, памяняць:
Сезон пляжны не будзе чакаць!
Вось і вырашыў: у сераду
У басейн пасля працы пайду.

**Даслаў Максім ІОНАЎ,**
*г. Лодзь (Польшча).*





Аляксандр ШМІДТ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

# ВЯПРУК



*Жарт*

Раз прыйшоў Сцяпан да кума,
Бо была ў яго задума:
– За турботы выбачай,
Але, куме, выручай.
Вяпрук есці перастаў,
Каб ён ног не апрастаў.
Ласку гэткую зрабі:
Ты жывёліну забі.
Гладзіць кум вусы лагодна:
– Што ж, дапамагчы я згодны.
Ды скажы ты мне, сябрук:
Дужы, ладны твой вяпрук?
Спадзяюся, не заморак?
Ну, пайшлі ўжо на падворак.
Кум глядзіць – аж хлеў пусты.
Мо, парсюк даў лататы?
Зазірнуў Сцяпан у кут:
– Дык нядаўна ён быў тут!
Любіць, баламут, хавацца...
Кум ужо пачаў злавацца:
– Зводзіш ты навошта ў зман?
Дзе ён, ладны твой кабан?
– Вунь, глядзі! Цябе збаяўся
І за венікам схаваўся.
Ухапіўся кум за бокі,
Ледзь не кінуўся у скокі:
– Вой, трымайце, не магу!
Назаві яго вагу!
Смехата дык смехата –
Не вышэйшы за ката!
І сагнуты, як кручок,
Толькі бачны пятачок.
Не падымецца рука
Біць такога «вепрука».
Зробім мы з табой прасцей:
Хай ён трохі падрасце.
Не шкадуй камбікармоў –
Будзе твой кабан здароў!



**Генадзь СУКАЧОЎ,**
*Рэчыцкі раён,*
*в. Якімаўка.*

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 1 (1552), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by; vozhyk@zviazda.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.01.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,41. Тыраж 879 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Аляксандр ШМІДТ.